// ПАГОНЯ
РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.
№ 4 (60) 28 студзеня — 3 лютага 1994 года Кошт 100 рублёў

# Сойм БНФ «Адраджэньне»

15 студзеня 1994 г. у Менску ў сядзібе БНФ адбыўся Сойм БНФ «Адраджэньне». У час пашыранай соймавай канфэрэнцыі быў заслуханы даклад старшыні БНФ «Адраджэньне» Зянона Пазьняка «Аб палітычнай сытуацыі і перавыбарчай пэрспэктыве».

Палітычная і эканамічная сытуацыі ў Беларусі рэзка пагоршыліся ў выніку эканамічнай вайны і ўмяшаньня контрразьведкі з боку Расеі ў справы суседняй сувэрэннай дзяржавы.

Робіцца стаўка на стварэньне рублёвай зоны, на манаполію пастаўкі нафты й газы, на нявыгадныя для Беларусі ўмовы клірынгавых паставак, на розьніцу цэн, на вярбоўку агентаў у ворганах КДБ, МУС і Вярхоўнага Савету, на прарасейскае лобі ў Саўміне, на выхаваньне імпэрскай сьвядомасьці, на ўвядзеньне двухмоўя і ўтварэньне канфэдэрацыі. Вядзецца мэтанакіраваная праца з боку ўрада Кебіча й большасьці Вярхоўнага Савету па ўключэньню Беларусі ў склад Расеі. Робяцца спробы поўнасьцю ўзяць пад кантроль Вярхоўны Савет, міністэрства бясьпекі і ўнутраных спраў і зьняць іх кіраўнікоў. Ідзе мэтанакіраваны развал эканомікі, каб спыніць прамысловасьць Беларусі.

Адзінай дэмакратычнай сілай, якая можа спыніць развал і выратаваць незалежную Беларусь, якая ня можа памыляцца,— гэта Беларускі Народны Фронт і дэмакратычныя партыі й блёкі Беларусі. Мы павінны ўмацаваць свае структуры на ўсіх узроўнях, вызначыць сваіх кандыдатаў на будучыя выбары, вывучыць палітычную і эканамічную сытуацыю на Беларусі і па месцы жыхарства, падтрымліваць цесныя кантакты з прадстаўнікамі бізнэса й прадстаўнікамі ўлады.

У гэтай крытычнай сытуацыі мы павінны выкрываць «прыхватызатараў» і карупцыянэраў і гаварыць, што злачынцы згодна рашэньням суда павінны сядзець у турме. Мы павінны прымушаць усімі сіламі ўлады навесьці парадак, патрабаваць ад улад, каб былі дадзены заданьні КДБ і МУС на пакараньне злачынцаў згодна законам.

Мы павінны настойваць на ўвядзеньні закона аб люстрацыях, згодна якому кампартыя павінна быць забаронена, бо яна змагаецца супраць незалежнай Беларусі, а яе вышэйшыя кіраўнікі не павінны допускацца да ўлады на працягу 5—10-гадовага тэрміну.

Выбары на Беларусі, рана ці позна, адбудуцца. Але яны будуць не дэмакратычнымі, паколькі няма новага дэмакратычнага закону аб іх. Таму асноўная наша задача—пераконваць выбаршчыкаў, што праграма БНФ і дэмакратычных партый — гэта ня толькі праграма рэформ, але й адзінае выйсьце для пабудовы свабоднай, заможнай і квітнеючай дзяржавы Беларусь.

На Сойме была акрэсьлена палітыка й тактыка дзеяньня БНФ па падрыхтоўцы будучых выбараў.

Дэпутаты апазыцыі расказалі аб сустрэчы з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, аб размове пры зачыненых дзьвярах і ў Курапатах.

**Старшыня гарадзенскай Рады БНФ К. ЖЫНЬ.**




**Больш за дваццаць гадоў працуе ў вёсцы Гудзевічы, што на Мастоўшчыне, гісторыка-этнаграфічны музэй. Наведвальнікам музэю дэманструецца разнастайная палітра вясковага жыцьця беларусаў Прынёманьня. Тут і ручная вышыўка, і падвойнае ткацтва, і драўляная атрыбутыка вясковага быту.**

**НА ЗДЫМКУ: А. М. Белакоз — заснавальнік музэя — распавядае чарговай групе наведвальнікаў аб славутых земляках свайго краю.**

**Фатаграфаваў Б. МЕШЧАРАКОЎ.**

# Адбыўся ўстаноўчы сход гарадзенскай раённай арганізацыі БНФ «Адраджэньне»

Днямі адбыўся ўстаноўчы сход Гарадзенскай раённай арганізацыі БНФ «Адраджэньне».

Удзел у сходзе прынялі прадстаўнікі трох суполак з вёсак Капцёўка, Граньдзічы й Рацічы, прысутнічалі сябры БНФ з іншых мясцін Гарадзенскага раёна. На сходзе з уступным словам выступіў старшыня Гарадзенскай вабласной рады БНФ Мікола Баўсюк, старшыня раённай Рады ТБМ спадар І. Ф. Буднік, старшыня Капцёўскай суполкі БНФ сп. Віктар Ражко, таксама выступіў сп. Уладзімір Кісялевіч. Па выніках сходу вызначана раённая Рада, старшынёй у якой абраны Уладзімір Кісялевіч, намесьнікам—Віктар Ражко, скарбнікам — Уладзімір Дзьмітрук. Былі распрацаваныя неабходныя дакумэнты дзеля рэгістрацыі, якія хутка будуць накіраваныя ў райсавет Гарадзенскага раёна.

Жадаючыя далучыцца ці атрымаць пэўную інфармацыю аб дзейнасьці Гарадзенскай раённай рады могуць зьвяртацца да намесьніка старшыні рады спадара Віктара Ражко па тэлефоне 915-320.

**(Спадар).**

# Дзядзя Сьцёпа пакідае звалку

Яшчэ нядаўна на гарадзенскай гарадзкой звалцы было чым пажывіцца, таму тут было заўжды людна. Ахвочыя пакапацца ў адыходах рабілі гэта не задарма, а з мэтай знайсьці сабе сёе-тое на будучыню й дзень надзённы. Часам сьмецьцязнаўцы за знойдзеную «каштоўнасьць» распачыналі бойку. Як сьлед, заўжды перамагаў больш моцны.

Дзядзя Сьцёпа быў адным з тых, хто, дзякуючы моцным кулакам, меў першынство ў раскопках сьмецьця. Ен дзяліў знаходкі паміж сваімі, вызначаў асабіста, што каму належыць. Апошнім часам дзядзю Сьцёпу нярэдка можна ўбачыць на вуліцах горада з вялікім мехам. Пры адной з такіх нечаканых сустрэч кар. «Пагоні» згадаў толькі адно пытаньне «цару звалкі: «Чым выклікана зьмена дыслакацыі?»

— На жаль, капашыцца ў сьмецьці стала невыгодна. Зьбяднелы народ і зьбяднелыя прадпрыемствы зараз мала што выкідваюць. Раней за дзень на звалцы можна было знайсьці дабра на тысячы, а зараз можна ўпустую прапрацаваць дзень. Таму й прыходзіцца штодзень пашыраць гэаграфію працы — абыходзіць шматлікія дваровыя завалы.

# «Хто што ахоўвае, той тое й мае...»

Здаецца, Міхаіл Жванецкі меў рацыю, калі сцьвярджаў гэта. Як пацьверджаньне, ў Берасьцейскай вабласной пракуратуры ў выкананьні знаходзіцца крымінальная справа на інспэктараў мытні «Зарэчыца», пункта, праз які таварныя цягнікі ідуць з СНД на захад і назад. На «гарачым» тут папаліся трое мытнікаў, якія скралі з вагона 23 імпартныя плашчы.

На гэтым жа кантрольным пункце памежнікамі было скрадзена 16 магнітафонаў «Соні», некалькі каробаў абутку «Саламандра», 3 упакоўкі цыгарэт, 6 тэлевізараў «Філіпс», 12 лісіных шубаў (па 2 тысячы даляраў ЗША кожная), відэакамэры, відэамагнітафоны, моцныя напоі, адзеньне, цукар і іншыя тавары імпартнай вытворчасьці.

Па інфармацыі, якая ёсьць, па гэтых справах праходзяць каля шасьці дзесяткаў чалавек, з якіх у сьнежні толькі сямёра знаходзіліся ў сьледчым ізалятары.

**Г. ПЯТРОЎ.**

# Да прадмесьця Вашынгтону на заробкі

Яшчэ адзін гарадзенец неўзабаве пакіне Горадню з мэтай зарабіць і паспрабаваць свае сілы на амэрыканскім кантыненьце.

На гэты раз ў далёкае падарожжа наважыўся прадстаўнік нацыянальнай меншасьці горада Юсуф Мірза Крыніцкі.

Будучы эмігрант распавёў кар. «Пагоні» ў прыватнай гутарцы так: «У мяне бліз Вашынгтону жыве цёця. Сёлета я быў у гасьцях і, дзякуючы яе пратэкцыі, займаўся выкладаньнем рускай мовы й літаратуры ў рускіх сем 'ях, дзе незабыліся на існаваньне гістарычнай Радзімы.

За адзін ўрок мне плацілі 50 даляраў, у дадатак ленч і транспартныя расходы. Такія ўмовы працы мяне задавальняюць і я вырашыў паспрабаваць шчасьця на чужыне».

# Помнік другой сусьветнай — прытулак для бомжа

Як стала вядома рэдакцыі «Пагоні» ад кампэтэнтных крыніц інфармацыі, праваахоўныя ворганы Горадні нядаўна разсакрэцілі прытулак мясцовых бяздомных у помніку Другой Сусьветнай вайны — танку, што знаходзіцца на Савецкім пляцы ў Горадні.

Кажуць, што небарак выдала частае грукaньне аднаго з люкаў танку, якім яны карысталіся як уваходам.

**Г. У.**





# СУМЕЖЖА

## Весткі з Летувы

### Паміж Усходам і Захадам

Замест таго, каб стаць мастом паміж Усходам і Захадам, Летува пагражае стаць мейсцам, якое даводзіцца абмінаць. Цяпер на межах і мытнях цягнікі вымушаны прастойваць гадзінамі. Толькі ў сьнежні мінулага года спазьнілася больш за тысячу цягнікоў, што праяжджаюць праз тэрыторыю краіны. Праз Летуву ўжо больш ня ходзіць цягнік Масква-Беласток, з 1-га лютага гэтага года будуць абмінаць яе цягнікі Пецярбург-Бэрлін і Пецярбург-Варшава.

●

Прэзыдэнт Бразаўскас на сустрэчы з пасламі, акрэдытаванымі ў Летуве, заявіў, што хацеў бы, каб у палітычным сэнсе Летуву разглядалі як краіну Цэнтральнай Эўропы. Падчас гэтае сустрэчы распавёў пра асноўныя дасягненьні й мэты зьнешняе палітыкі дзяржавы. Прыярытэтным напрамкам было названа наладжваньне ўзаемаадносінаў з бліжэйшымі суседзямі. Летува надзвычай зацікаўлена ў посьпеху працэсаў дэмакратыі й рынкавых рэформаў у Расеі, Беларусі, Украіне. Бяз гэтага, маўляў, немагчыма дасягнуць уласнае бясьпекі й дабрабыту.

●

Замест зьліквідаванай групы дзеля перагавораў з Расеяй у Летуве створана група дзеля перагавораў з краінамі Садружнасьці Незалежных Дзяржаў.

●

Як вядома, кіраўніцтва НАТА прапанавала альтэрнатыўны варыянт інтэграцыі — праграму «Партнёрства дзеля міру». Гэтая праграма прадугледжвае сумесныя вайсковыя манэўры, апэрацыі дзеля падтрыманьня міру, магчымасьць кансультавацца падчас узьнікненьня непасрэднае пагрозы тэрытарыяльнай цэльнасьці, палітычнай незалежнасьці ці бясьпецы. Кіраўніцтва Летувы пагадзілася з такой прапановай пры ўмове, што гэта будзе прыступкай дзеля поўнага ўваходжаньня ў вайсковыя й палітычныя структуры НАТА. 27 студзеня А. Бразаўскас сам наведае штаб-кватэру Паўночна-атлантычнага саюзу, каб падпісаць праграму «Партнёрства дзеля міру».

Тым часам у Летувіскай прэсе пачынаюць выказвацца сумненьні адносна мэтазгоднасьці хуткага далучэньня да НАТА — маўляў, гэта запатрабуе каласальных сродкаў і дзеля гэтага могуць быць патрачаныя ўсе замежныя крэдыты.

●

Летува, Латвія і Эстонія вырашылі стварыць сумесную вайсковую арганізацыю — Балтыцкі батальён міру. У яго складзе будзе 650 чалавек. Камандзіры й жаўнеры штогод будуць замяняцца на новых. У лютым месяцы гэтага году сумесныя вайсковыя манэўры пройдуць у Эстоніі, потым у ліпені — у Летуве, а ў кастрычніку — у Латвіі.

### За і супраць

Сэйм Летувіскай Рэспублікі прыняў закон, які дазваляе асобам ад 25 гадоў набываць, захоўваць, мець пры сабе агнястрэльную зброю — пісталет (рэвальвер) калібру ня болей за 9 мм, гэта значыць, ня высокай забойнай моцы. Дазвол на зброю будуць выдаваць мясцовыя камісарыяты паліцыі. Паводле гэтага ж закону, асобы, якія незаконна набылі зброю, мусяць здаць яе да 1 красавіка бягучага года. Таму, хто самахоць зробіць гэта, ня будзе пагражаць крымінальная адказнасьць, наадварот — за здадзеныя арсэналы прадугледжана кампэнсацыя.

●

Сэйм Летувіскай Рэспублікі адмысловай папраўкай да закона аб прадпрыемствах забараніў ствараць і ўтрымліваць казіно і іншыя дамы дзеля азартных гульняў.

### Госьці ў Летуве

Паводле дадзеных Дэпартамэнту Статыстыкі пры ўрадзе Летувіскай Рэспублікі ў дзяржаўных і прыватных гатэлях Летувы й матэлях, турыстычных асяродках і кэмпінгах зарэгістравана было ў трэцім квартале мінулага году 132 тысячы асоб, з іх 89 тысяч — чужаземцы.

Найбольшая колькасьць гасьцей была з СНД (43 тысячы). З Заходняй Эўропы было 19 тысяч, з Паўднёвай Эўропы — 8 тысяч, з Усходняй — 6 тысяч чалавек.

### Новы закон

пачаў дзейнічаць у гэтым годзе. У выпадку сьмерці грамадзяніна рэспублікі член яго сям'і або асоба, якая яго даглядала, атрымае дапамогу, роўную тром пражытачным мінімумам.

У выпадку сьмерці інваліда, пэнсіянэра або члена сям'і, які атрымліваў сацыяльную дапамогу, сума гэта павялічыцца ў два разы.

Грашовая дапамога з бюджэту самаўпраўленьняў выплачваецца на працягу 24 гадзін ад моманту зьвяртаньня да іх.

### Най... Най...

Найбольш папулярным палітыкам у мінулым годзе стаў прэзідэнт Альгірдас Бразаўскас. Другое месца заняў лідар Саюза Айчыны (Летувіскія кансэрватысты) Вітаўтас Ландзбэргіс, трэцяе — намесьнік старшыні Сойму Эгідзіюс Бічкаўскас.

Найбольш важным здарэньнем рэспандэнты лічаць візыты ў Летуву Яна Паўла II, вывад войск Расеі і ўвядзеньне сваёй валюты — літа.

Анкетаваньне правёў асяродак дасьледваньня грамадзкай думкі «ВАЛМОРУС».

### 88 па ліку

Першая паштовая марка з сэрыі «Эўропа» выдадзена па ініцыятыве Эўрапэйскага Саюза Пошт і Тэлеграфаў, у якую з мінулага года ўваходзіць і Летува. Гэтая міжнародная арганізацыя кожны год прапануе краінам сьвету выданьне паштовых марак на акрэсьленую тэму. У мінулым годзе такой тэмай было сучаснае мастацтва.

На першай летувіскай марцы з гэтай сэрыі прадстаўлена карціна Антанаса Гудайціса «Стары майстар», выкананая ў 1939 годзе.

Тыраж маркі — паўмільёна паасобнікаў, намінальная вартасьць — 80 цэнтаў. Надрукавана яна ў маскоўскай друкарні «Дзяржзнаку».

На працягу трох гадоў незалежнасьці Летува выдала ўжо 87 паштовых марак, марка з сэрыі «Эўропа» зьяўляецца 88 па ліку.

### Аб'ява

Пасольства Рэспублікі Беларусь у Летуве пераехала ў будынак па вул. П. Кліма, 8 (раён вул. Чурлёнё).

Праезд ад вакзала тралейбусамі № 15, 16 да прыпынку Кауно, далей тралейбусамі № 4, 6, 11 да прыпынку Канарскага.

Праезд ад аэрапорту: аўтобусам № 2 да прыпынку Чурлёнё.

Праезд з цэнтра горада тралейбусамі № 4, 6, 11, аўтобусамі № 22 да прыпынку Канарскага.

Прыём грамадзян вядзецца штодзённа, акрамя суботы, нядзелі й сьвят. Па пытаньнях грамадзянства і іншых: 10.00—13. 00. Па пытаньнях атрыманьня віз (для грамадзян краін, з якімі існуе візавы рэжым): 15.00—16. 00.

Тэлефоны: (0122) 65-08-71, (0122) 65-22-32 факс.

Паштовы адрас: Baltarufijos Respublikos Ambasada, P. Klimo 8, Vilnius 2009, Lietuvos Respublika.

## Весткі з Польшчы

Сэймавая камісія па нацыянальных і этнічных меншасьцях 19 студзеня гэтага года разглядала праэкт бюджэту Міністэрства культуры й мастацтва на 1994 год у частцы, якая датычыць фінансаваньня дапамогі для культурных дзеяньняў меншасьцяў.

На пасяджэньні была створана падкамісія па справах закону аб нацыянальных і этнічных меншасьцях.

■

«Учора, сёньня й заўтра ў Польска-летувіскіх адносінах»,— гэта тэма нарады, якую ў Варшаве арганізаваў агульнапольскі клюб любіцеляў Летувы.

Некалькі дзесяткаў інтэлектуалаў, парлямэнтарыяў, гісторыкаў абмяркоўвалі сукупнасьць польска-летувіскіх адносін у супастаўленьні сытуацыі на Эўрапэйскім кантыненьце.

■

Банкноты вартасьцю: 100000, 500000 і 1 млн. нацыянальнага банка Польшчы маюцца ў бліжэйшы час быць заменены на новыя з дадатковымі вадзянымі знакамі. Зьнешне іх выгляд застанецца ранейшым.

Выклікана гэта неабходнасьць вялікай колькасьцю падробак менавіта банкнотаў гэтай вартасьці.

■

Шэсьць рабочых мясакамбіната, што ў Элку, аб'явілі галадоўку, патрабуючы адстаўкі намесьніка старшыні гэтага прадпрыемства, а таксама павысіць заработную плату на адзін мільён.

■

Госьцем агульнага сходу суддзяў Беластоцкай акругі, быў міністар Юстыцыі В. Цімашэвіч. Міністар прадставіў сабраўшымся праэкт бюджэту ведамства на 1994 год, які будзе большы, чым плянавалася. Гэта дазволіць пачаць кампутарызацыю судоў, ліквідаваць пратэрмінаваныя выплаты суддзям, пракурорам і павысіць зарплаты ў раённых юрыдычных установах.

■

У Нарве перанесена са старога на новы могільнік драўляная царква XVIII стагоддзя. Пры нагодзе будзе часткова зьменена канструкцыя сьцен і даху. Рамонт храма праводзіцца са згоды і пры фінансавай падтрымцы Ваяводзкага рэстаўратара помнікаў у Беластоку.

■

Лік беспрацоўных у Беластоцкім ваяводстве на працягу мінулага года пастаянна падвышаўся і ў сьнежні дасягнуў 45 тысяч чалавек, што складае 14% ад агульнага ліку занятасьці насельніцтва. Амаль палова беспрацоўных страціла ўжо права на грашовую дапамогу.

■

Вакальны ансамбль «Каліна» з вёскі Дашы Ляшчэлеўскай гміны сьвяткаваў 16-годдзе свайго існаваньня. Калектыў, які заснаваўся па ініцыятыве В. Міцэвіч і С. Кердалевіч, выконвае мясцовыя беларускія народныя песьні. Юбілейную вечарыну сваёй прысутнасьцю ўдастоіў І. Хадасевіч, віцэ-консул генэральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку.

**Па матэрыялах польскага друку.**



**Друзгеніцкія вайсковыя могілкі, дзе пахаваны воіны, загінуўшыя падчас вызваленьня горада ад нямецка-фашыстоўскіх захопнікаў.**

**Фатаграфавала А. БІБІКАВА.**

### Затрымка зарплаты

Упершыню за час інфляцыі на гарадзенскім вытворчым аб'яднаньні «Гроднаэнерга» затрымалі больш як на два тыдні выплату зарплаты.

Першапрычына тут ня ў нейкіх недапрацоўках бухгалтэрыі, а ў непасьлядоўных разьліках прадпрыемстваў і ўстаноў Горадні з электрасеткамі.

### Чатырохдзёнка — ня выйсьце

Адразу ж пасьля калядаў гарадзенскі завод «Радыёпрыбор» перайшоў на чатырохдзённы рэжым працы. Але ці выратуе завадчан такі крок? На думку інжынера па забесьпячэньню, чатырохдзёнка — ня выйсьце, бо заводу хранічна не хапае камплектуючых. Яны ёсьць у сумежнікаў, але тыя патрабуюць папярэднюю аплату.

На жаль, каса завода пустая. У той жа час сумежныя прадпрыемствы Расеі маюць запазыку перад гарадзенцамі ў некалькі соцень мільёнаў рублёў.

### Падлік будзе строгі

Многія ўстановы й прадпрыемствы Горадні апошнім часам пачалі забясьпечваць сябе лічыльнікамі электраэнэргіі.

«Нас прымусіла пайсьці на такі крок неабходнасьць, бо гарадзенскія энэргэтыкі пры адсутнасьці лічыльнікаў выстаўляюць непамерныя рахункі на электраэнэргію»,— згадаў кар. «Пагоні» гаспадарнік гарадзенскага НДУ «Белгіпрабуд» спадар Міхайлаў.— Сёлета мы ўстанавілі лічыльнікі ў сваім піянэрлагеры й дзіцячым садку, на чарзе—будынак інстытуту».

**Г. У.**





# ГІСТОРЫЯ Й СУЧАСНАСЬЦЬ

## Трохразовы падатак

**Пра разгромленыя партызанамі нямецкія гарнізоны й пра дапамогу з Вялікай зямлі ў час Другой Сусьветнай вайны напісана шмат. На думку аўтара гэтых радкоў, тыя, хто пісаў пра партызанскі рух на Беларусі, занадта сьціпла крануліся тэмы забесьпячэньня партызанаў харчам, вопраткай і многім іншым. Сёньня газэта «Пагоня» спрабуе зьліквідаваць гэты прагал, прапануючы чытачам успаміны ўладальніка палескага хутара Калаварот Пятра Двараеовіча.**

— У першую ж зіму вайны па нашай акрузе пайшлі чуткі, што пачалі па хатах хадзіць людзі, якія завуць сябе партызанамі. У час такіх візытаў няпрошаныя госьці патрабуюць цёплыя рэчы — кажухі, ватовыя парткі, суконныя рэчы, бялізну. Да таго ж забіраюць сала, муку, цыбулю, бульбу. Пры адмове ўладальніка аддаць нажытае дабро людзі гэтыя прымяняюць сілу. Весткі штодня прыходзілі самыя жудасныя. Сяляне цішком згадвалі, што той ці іншай ноччу былі абрабаваныя такіясьці вёскі. Каб захаваць сваё дабро, вяскоўцы пачалі хаваць нажытае. Часьцей за ўсё адвозілі ў патаемныя месцы ці закопвалі ў ямы. Тое самае зрабіў і я. Але доўга радавацца свайму спрыту не давялося.

Неяк на прадвесьні ў хату пастукалі, я згадаў, што не адчыню. З вуліцы адказалі, што адчыняць сілай дзьверы й тады мне не здабравадь. Жонка й цесьць пачалі прасіць, каб я не ўпарціўся й адчыніў. А то падпаляць хату, згарым разам з душамі, даводзілі хатнія.

У расчыненыя дзьверы ўваліліся шасьцёра чалавек з вінтоўкамі, на шапках у іх наўскос красаваліся чырвоныя стужкі. Начныя госьці не цэрымоніліся й адразу ж запатрабавалі выпіўку й вячэру.

Жонка пачала завіхацца на кухні, а я палез у падпольле, каб прынесьці штоф самагону.

Пад ´еўшы, чырвонастужачнікі распачалі вобыск. Не знайшоўшы ў хаце чаго-кольвечы цікавага й каштоўнага, яны пачалі пагражаць. Я казаў, што я чалавек бедны і ў мяне няма нічога. Тады больш нахабны з партызанаў выцяў мяне шомпалам і згадаў, што ён ведае, што ў мяне ёсьць скураная сьвітка й я павінен абавязкова яе аддаць яму. Я адмаўляўся, казаў, што прадаў скуранку на торжышчы за газу. Удары сыпаліся адзін за другім, дасталося й жонцы. І я вымушаны быў здацца.

У схове, дзе была скураная сьвітка, ляжала яшчэ жончына «ясёнка», кашмыровыя хусткі, храмовыя боты й два сувоі палатна. Увесь гэты скарб партызаны забралі, ды й яшчэ паглуміліся з маёй сям ´і.

**— Ці скардзіліся вы немцам!**

— Якія скаргі. Паскардзішся, дык ноччу прыйдуць і заб ´юць цябе самога й тваю сям ´ю. Такія выпадкі былі.

Да таго ж немцы й самі зьбіралі падаткі ў выглядзе тых самых кажухоў, суконных рэчаў. У дзень — немцы, ноччу — партызаны, а потым яшчэ нейкія зьявіліся бульбашы. І ўсіх павінен быў абуць, апрануць і накарміць мірны селянін. Як бачыце, у час вайны з нас бралі патроены падатак. І хоць часу прайшло шмат, але й да гэтага дня мне вярэдзіць душу вось што: адкуль маглі ведаць рабаўнікі аб рэчах, якія мае той ці іншы гаспадар. Відаць, сярод вяскоўцаў былі ў партызанаў свае людзі.

P. S.: Друкуючы ўспаміны спадара пятра Двараіовіча, мы не зьбіраліся абразіць тых, хто сумленна ваяваў. Проста хочацца, каб людзі ведалі ўсе бакі няпростай і заблытанай гісторыі партызанскага руху на Беларусі.

**Размаўляў Г. АСТРОЎСКІ.**

**5 сьнежня 1947 года мы, вучні сёмага класа Чарніхоўскай сярэдняй школы: я і мой сябар Шурык Клімашэўскі, цяпер Алесь Іосіфавіч, выкладчык кафэдры фізвыхаваньня Брэсцкага пэдінстытута, у гонар дня сталінскай канстытуцыі парэзалі партрэты вялікіх правадыроў: я — Сталіна, ён — Леніна.**

**Мікола ГРЫШАН.**

**ПОМСТА**

Ня думаў, за гэта што будзе,
Кудысьці падзеўся мой страх,
Як брытваю рэзаў я грудзі,
Акутыя ўсе ў мэдалях.
Ішоў я на помсту сьвядома
За ўсіх: ад старых да малых—
За родных, чужых, незнаёмых—
Закутых ім у кайданы.
Хоць вокал былі гімн — маленькі
Я чуў стогн і звоны акоў:
У муках быў розум, сумленьне—
Тыран піў нявінную кроў.
Тады я адчуў: вецер волі
Шугнуў з Варкуты ў Калыму—
Тыран зьведаў мукі і болі,
Бясьсільле і гібель адчуў.

**ВЕРНАСЬЦЬ**

Ёсьць на сьвеце краіна такая,
Дзе лугі, нівы, рэкі і гай,
А зямля, як малітва сьвятая,
Хоць да раны яе прыкладай.
Яе дзеці, народжаны ў горы,
Праглі зваіца спрадвеку людзьмі,
Ды пад сонцам, нябесным прасторам
Сабе долі здабыць не маглі.
Як мне люба, як сэрца кранае
Усё, што ёсьць у мілым краі:
Сонца, ранкам што ўсходзіць
над гаем,
Колас жытны на роднай зямлі.
І зямлю, дарагую, сьвятую,
Шчыра, верна люблю ўсёй душой,
З мілай лаской яе я цалую
Так, як рукі матулі сваёй.

**МАРА**

Чарнобыль, сьмерці гэрб!
Чарнобыль!
Цябе, праклятага навек,
Рахункам бацькаўскім асобым
Плануе зьнішчыць чалавек.
Адным пуцёўкі на круізы,
Хто ўладай верхняю сагрэт,
А ўсім астатнім даеш візы
Прамым кірункам на той сьвет.
Пасьля цябе мы ўсё пакінем:
Наш боль і радасьць, гора, сьмех,
І промень сонца ў небе сінім,
І ластавак, з-пад родных стрэх.
А хто палічыць нашы страты
І колькі іх яшчэ нам мець?
І з цёмных вокнаў пустых латаў
Глядзець вякамі будзе сьмерць.
Тлусьцеюць з роскашы магнаты,
Ім ні па чым прагрэс, застой,
А ў бабкі беднае Агаты
Няма капейкі за душой.
Усё абскублі. Эх, зладзеі!
Ці прыйдзе час да нас калі,
Што нашы спраўдзяцца надзеі
І зьнікне поскудзь на зямлі?

## Ад тых векапомных часоў беларусы раз-пораз папаўняюць польскі й расейскі этнасы

Кажуць, што для захаваньня нацыі мала адной мовы, культуры й гістарычных традыцый. Патрэбна яшчэ й свая — дзяржаўная вера ў Бога.

Напрацягу стагоддзяў Вуніяцкая царква на Беларусі выконвала гэтую пачэсную місію — ратавала беларусаў, іх душы ад бязпамяцтва.

Сёньня, калі адроджаная высілкамі сумленных беларусаў Вунія наноў пачала выконваць сваю галоўную місію, на саму зьяву вуніяцкай царквы з боку гэрархаў праваслаўнай і каталіцкай дыяспары пасыпалася шмат папрокаў. Пра дзейнасьць вуніяцкай суполкі ў Горадні кар. «Пагоні» распавёў актывіст суполкі Вуніятаў спадар Мікола Воран.

«Для таго, каб мацавалася любая дзяржава, неабходна і свая дзяржаўная вера ва Усявышняга. Гэта падказвае ход гісторыі. Асабліва надзённа пытаньне стаіць перад маладымі дзяржавамі. Мы ствараем незалежную Беларусь, і для маладой дзяржавы, як паветра, патрабуецца свая царква. Я сам праваслаўны, але калі паўстала такое пытаньне, то патрыятызм, які захаваўся ў маёй душы, не дазволіў застацца ў баку. Давялося парваць з праваслаўнай верай і прысьвяціць сябе іншай форме веры ў Бога, я маю на ўвазе Вунію.

Для чаго я гэта зрабіў? Мне не дазваляе сумленьне глядзець, як топчацца маё роднае, бацькоўскае.

Памятаю, калі раней прыходзіў да царквы й прасіў сьвятара зрабіць споведзь на беларускай мове, то ў адказ чуў, што я прыйшоў у храм Расейскай праваслаўнай царквы. Адчуваць сябе чужынцам у сваёй хаце вельмі брыдка. Тым болей, што мае сябры-каталікі таксама скардзіліся на неадпаведнае стаўленьне да беларускай мовы каталіцкіх сьвятароў. Тут я ўсё ж вымушаны зрабіць удакладненьне. Касьцёл хоць і не прапагандаваў беларускай мовы, але й не патураў ваяўніча настроеным вернікам. Зусім іншае мы адчувалі з боку праваслаўнай суполкі.

Калі мы заявілі аб сваім намеры змагацца па закону за Базыльянскі кляштар, то праваслаўныя бабулькі ледзь было не пабіліся з намі падчас супрацьзаконнай перадачы нашай гістарычнай спадчыны на рахунак праваслаўнай царквы.

**— Ці можна лічыць Вашу барацьбу за Базыльянскі кляштар скончанай!**

— Ні ў якім разе. Але дзейнічаць мы будзем па закону. Нядаўна старшыня нашай вуніяцкай суполкі падаў ліст у гарвыканкам з просьбай аб ´ектыўна разабрацца ў гісторыі. Калі й гэта не дапаможа, будзем зьвяртацца ў суд, апэляваць да міжнароднай супольнасьці.

**— Колькі зараз прыхільнікаў Вуніі ў Горадні!**

— Актыўна ўдзельнічаюць у руху адраджэньня Вуніі чалавек 50—70. На набажэнствы, якія, дарэчы, праходзяць у Гарадзенскім Доме культуры, прыходзіць таксама ня шмат людзей. Але я ўпэўнены, што з цягам часу нас будзе значна болей. У іншым выпадку, калі мы ня здолеем стварыць сваю дзяржаўную царкву й надалей будзем залежна ад палітычнай сытуацыі раз-пораз папаўняць ці польскі, ці расейскі этнасы.



## На вадохрышча

Стала добрай традыцыяй гарадзенскіх праваслаўных вернікаў штогод у дзень, калі Сын Божы Ісус Хрыстос прыняў ад «Ян Хрысьціцеля» хрышчэньне ў рацэ Іярдан, прыходзіць на бераг Нёмана, каб выканаць сьвяты абрад.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

**На здымку:** сьвятая працэсія падыходзіць да Нёмана. Абрад высьвечваньня вады праводзіць айцец Уладзімір.

**Фатаграфаваў У. УЛАДАСЕВІЧ.**



## Мячэць на беразе Нёмана

Як стала вядома рэдакцыі «Пагоні» ад актывіста мусульманскай дыяспары Горадні Ю. Крыніцкага, суполка вернікаў-мусульман вырашыла адмовіцца будаваць свой храм бліз мястэчка Ласосна з мэтай не ствараць на Гарадзеншчыне этнічна-канфэсійных непаразуменьняў.

З гэтай нагоды прыхільнікі Ісламу зьвярнуліся да ўладаў Горадні паспрыяць у выдзяленьні надзелу зямлі пад будаўніцтва мячэці ў іншым месцы горада. Гарвыканкам пазытыўна паставіўся да просьбы гарадзенскіх мусульманаў і выдзяліў кавалак зямлі бліз вёскі Солы, што непадалёк шпіталя ВА «Азот».

**Г. У.**

## Гасьцям заўжды рады

Пасьля літургіі, якую правёў мэтрапаліт Менскі й Слуцкі Філарэт падчас сьвята Уваядзеньня ў храм Прасьвятой Багародзіцы, міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка перадаў вернікам Міхайлаўскай царквы дзьве тысячы даляраў на аздабленьне славутага берасьцейскага храма—вядомага помніка дойлідства.

Гэтыя грошы ў час знаходжаньня міністра ў Клііўлендзе ахвяраваў для Міхайлаўскай царквы беларус па паходжаньню Анатоль Лук ´янчык. Ён мае завод па вырабу кандыцыянэраў для кватэр, яго не пакідае вялікае жаданьне хоць раз паглядзець на гэты сусьветна вядомы помнік архітэктуры XV — XVI стагоддзя.

**Пётр ЖЭБРАК.**

# ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

В. ПАНУЦЭВІЧ

# Горадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918—1919 гадох

## 1. Горадня — сталіца вызвольнага беларускага руху

Так як у мінуўшчыне, Горадня адыгравала сваю ролю і ў пэрыяд самастанаўленьня народаў ды ўзнаўленьня нашай дзяржаўнасьці — Беларускай Народнай Рэспублікі. Найменна ў 1918—1919 гг. Горадня сталася сядзібай ураду БНР і Беларускага Міністра пры жамойцкай дзяржаве, і месцам тварэньня сваіх збройных сілаў пасьля таго, як скапітулявала Нямеччына і бальшавікі занялі бальшыню беларускай тэрыторыі зь Менскам і Вільняй.

Горадня перад Першай Сусьветнай Вайной была сталіцай Горадзенскай губэрні, якая займала 34.060 квадр. вёрст з наступнымі паветамі: Горадзенскі, Берасьцейскі, Беластоцкі, Бельскі, Ваўкавыскі, Кобрынскі, Пружанскі, Слонімскі і Сакольскі.

Перад вайной, пачынаючы ад 1913 году, царскі ўрад пабудаваў вакол Горадні 12 фортаў і ваенных умацаваньняў, творачы з Горадні цьвярдыню.

Немцы, заняўшы Горадню ў верасьні 1915 году, горадзенскія ўмацаваньні аднавілі ды разбудавалі, аднак ня ў Горадні, але ў Беластоку ўтварылі «Мілітэрфэрвальтуг Бялісток-Гродно». Як у Горадні, так і яго ваколіцах стаяла многа нямецкага войска.

Немцы ад самага пачатку сваёй акупацыі Горадзеншчыны і іншых земляў Беларусі няпрыхільна паставіліся да справы аднаўленьня беларускай дзяржаўнасьці. Заняўшы беларускія землі, яны Сувальшчыну й Ломжу далучылі да Усходняе Прусіі, а на рэшце земляў устанавілі акупацыйную ўдалу «Обэр-Ост», якая абыймала тры правінцыі: «Мілітэрфэрвальтунг Літаўэн», «Мілітэрфэрвальтунг Курлянд» і «Мілітэрфэрвальтунг Бялісток-Гродно». Да акругі «Літаўэн» (Літвы у знач. Жамойці) яны далучылі Вільню, Віленскі, Троцкі і Сьвянцянскі паветы.

У акругу «Курляндыя» немцы ўлучылі Дзьвінск і беларускую Латгалію. З гэтых дзьвюх акругаў яны меркавалі зрабіць нямецкія правінцыі ды засяліць шчыльна Немцамі. Акруга «Беласток-Горадня» мела быць у рэзэрве, як аб 'ект гандлю з перамовах з Ресеяй аб сэпаратным міры. На ўсякі выпадак Немцы дапушчалі толькі беларускае школьніцтва, культурныя беларускія арганізацыі ды беларускую газэту «Гоман», што выдавалася ў Вільні.

На тэрыторыі Горадзеншчыны пры Немцах было 177 беларускіх школаў.

Нямецкія пляны крыху зьмяніліся з далучэньнем ЗША да Антанты ў 1917 г., асабліва пасьля апублікаваньня ведамых 14 пунктаў Вільсана аб самавызначэньні народаў (8.1.1918). Тады Немцы выракліся анэксіі «Літвы» і «Курляндыі», а сталі падрыхтоўваць нібы ў духу «самавызначэньня» народаў акругі «Літву», «Курляндыю» і «Украіну» як сваіх сатэлітаў.

Ажыцьцяўленьнем гэтай нямецкай палітыкі адносна Жамойці («Літаўэн») быў імі арганізаваны 18 верасьня 1917 г. зьезд прадстаўнікоў ад аранізацыяў і адміністрацыйных управаў у Вільні дзеля ўстанаўленьня жамойцкай нацыянальнай рэпрэзэнтацыі. На зьездзе была выбраная «Краёвая Рада», па-жамойцку —«вальстыбэс Тарыба», або проста Тарыба, якая мела прадстаўляць перад Немцамі інтарэсы Жамойці.

11 сьнежня 1917 г. Тарыба падпісала дэклярацыю аб утварэньні «Летувіскай» дзяржавы ў цеснай лучнасьці зь Нямеччынай пры супольнай ваеннай, эканамічнай і мытнай сыстэмах. Межы гэтай «дзяржавы» спачатку абыймалі межы акругі «Літаўэн», г. зн. уключалі апрача Жамойці беларускую тэрыторыю: Вільню, Трокі, Сьвянцяны й Сувалкі.

Мірныя перамовы ў Берасьці з бальшавікамі, а ў асаблівасьці супрацію Троцкага на адрыў Прыбалтыкі ад Расеі ды ўмыснае зацягваньне перамоваў савецкай дэлегацыяй, заважылі на далейшых тэрытарыяльных пераменах коштам беларускіх земляў. Немцы не дапусьцілі дэлегацыі БНР з д-р Цьвікевічам на чале да ўдзелу ў нарадах у Берасьці, разглядаючы беларускую тэрыторыю за аб 'ект гандлю з бальшавікамі й новымі контрагентамі — Украінцамі і Жамойцамі.

Такім чынам, 8 лютага 1918 г. быў падпісаны ў Берасьці сэпаратны мір з Украінай ды прызнаньне за ёй беларускага Палесься. Адначасова Немцы нанова далучылі да Прусіі Сувалкі і Аўгустова, а ўзамен за гэта да жамойцкай дзяржавы далучылі беларускія землі: ўсю Горадзенскую губэрню, усю Віленскую губ. і заходнія часткі Менскай. Такім парадкам Заходняя Беларусь на захад ад лініі: Дзьвінск — Наваградак — Пінск — Берасьце, лучыла ў жамойцкую дзяржаву.

Супраць гэтага нямецкага падзелу тэрыторыі Беларусі, замацаванага яшчэ сэпаратным мірам з Расеяй 3 сакавіка 1918 г. ды прызнаньнем незалежнасьці жамойцкай дзяржавы зь берасьцейскімі граніцамі кайзэрам Вільгельмам (23 сакавіка 1918), Рада БНР выдала сваю пратэстацыйную грамату 9 сакавіка да абвесьціла незалежнасьць БНР 25 сакавіка 1918 г.

У чытача можа ўзьнікнуць пытаньне, чаму Беларусы не тварылі свайго войска ды сілай не баранілі свае краіны перад захопнікамі?

Трэба перш за ўсё памятаць, што Беларусь у часе Першай Вайны была разьдзелена лініяй нямецка-расейскага фронту. Тут канцэнтраваліся мільённыя арміі варожых дзяржаваў, уведзены быў ваенны стан і ўсякія нацыянальныя рухі былі вайсковай уладай акупантаў забароненыя. Незалежна ад гэтага, насельніцтва было змабілізаванае ў расейскую армію, эвакуаванае, расьцярушанае прыфрантовымі работамі, а гаспадарчае жыцьцё зьнішчанае. Не знайшлося ніводнай дзяржавы, якая была зацікаўлена аднаўленьнем беларускай дзяржаўнасьці. Інакш кажучы, Беларусь паўставала да свайго незалежнага жыцьця выключна сваімі собскімі ды моцна падарванымі сіламі ўва ўмовах бадай што найцяжэйшых у параўнаньні зь іншымі народамі. Нашыя суседзі: Жамойцы, Латышы, Эстонцы, Украінцы й Палякі мелі сваіх моцных пратэктараў звонку, і дзякуючы гэтай пратэкцыі ім было куды лягчэй бараніцца.

(Працяг будзе).

# 75 гадоў таму

1 студзеня споўнілася 75 гадоў з дня заснаваньня Віленскай беларускай гімназіі, вучэльні, якая адыграла адметную ролю ў станаўленьні й выхаваньні нацыянальна-сьвядомай беларускай інтэлігенцыі, беларускай школы, навукі, шэрагу выдатных палітычных дзеячоў і змагароў за незалежнасьць Беларусі. Час заснаваньня Віленскай гімназіі — гэта час лёсаноснай барацьбы тытанаў беларускага Адраджэньня за вольнасьць беларускага народа, эпіцэнтр якой 75 гадоў назад перамясьціўся ў Горадню, дзе працавала рада БНР. Аб падзеях даўно мінуўшых гадоў апавядае аўтар беларускага замежжа Вацлаў Пануцэвіч у сваім артыкуле «Гарадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918—1919 гадах», які быў надрукаваны ў газэце «Бацькаўшчына» (№ 3—10, жнівень 1964, Мюнхэн).

Некалькі слоў пра аўтара. Эмігрант ваенных часоў — перамешчаная асоба, Вацлаў Пануцэвіч здолеў пераехаць на сталую працу, уключыўся ў беларускае нацыянальнае жыцьцё Чыкага. Менавіта тут, ці не ў адзіным месцы Паўночнай Амэрыкі, аб 'ядналіся розныя хвалі эмігрантаў, утварыўшы Беларуска-амэрыканскую нацыянальную раду. В. Пануцэвіч стаў сакратаром рады. Адначасова ён быў актыўным дзеячом Беларуска-амэрыканскага каталіцкага таварыства, нават яго віцэ-старшынёй, якое ўзначальваў Станіслаў Грынкевіч. У пачатку 60-х гадоў Вацлаў Пануцэвіч выступіў як заснавальнік і кіраўнік выдавецкай Сябрыны ў Чыкага, якая выдавала часопіс «Беларуская царква», шэраг іншых беларускамоўных выданьняў. Як бачна з прапаноўваемага увазе чытачоў гэтага артыкула, В. Пануцэвіч цікавіўся і валодаў гістарычным матэрылам. Яго пяру належыць такі буйны твор, як манаграфія «Жамойдзь і Літва», выдадзеныя ў Чыкага ў 1953 г. У часы эміграцыі В. Пануцэвіч, нягледзячы на складанае палітычнае становішча беларускай эміграцыі, застаўся верным «ідэі БНР» і нават у канцы 60-х гадоў прыняў захады аб арганізацыі Лігі БНР у Чыкага. Пазьней ён працаваў у Чыкагскім сэктары БНР.

Узгаданыя гістарычныя творы Вацлава Пануцэвіча, як і многіх іншых прадстаўнікоў беларускай дыяспары, застаюцца маладаступнымі сёньняшняму чытачу. Але, на шчасьце, сярод замежных беларусаў ёсьць людзі, якія захавалі праз шмат гадоў выданьні, якія ў свой час гуртавалі й падтрымлівалі іх у цяжкія й жорсткія гады на чужбіне. Адзін з такіх людзей — Міхась Махнач, які жыве ў штаце Ілінойс. Ніколі не адмаўляўся ад беларускай справы, актыўна супрацоўнічаў як карэспандэнт з замежным беларускім друкам. У мінулым годзе ён быў дэлегатам I зьезду беларусаў сьвету. Менавіта яму мы ўдзячны за ўнікальны дар — выданьні беларускага замежжа пасьляваенных гадоў. Шэраг матэрыялаў з гэтых выданьняў будзе абавязкова перадрукаваны «Пагоняй». А пачаць гэту справу, відаць, мэтазгодна з матэрыяла В. Пануцэвіча, што тычыцца Горадні. Такой, якой яна была 75 гадоў назад.

**А. МАЙСЯЕНАК,**
**старшыня Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, член праўленьня фонда «Бацькаўшчына».**

# Мастакі любяць Горадню

20 студзеня ў Горадні ў Новым замку адкрылася першая ў гэтым годзе выстава. Яе аўтары — маладыя беларускія мастакі з Менску — Сяргей Сялецкі й Ганна Каралёва, абодва выпускнікі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Выстава называецца «Палёт Навігатара».

Як заўважыў нехта з выступаўшых падчас адкрыцця,— яны прывезьлі ў Горадню цалкам новае мастацтва, у якім шмат ідзе ад слова, у іх карцінах вызначаецца інтэлектуальнасьць і начытанасьць.

Сяргей і Ганна ўпершыню ў жыцьці наведалі Горадню й вельмі ўдзячны лёсу, што іх першая сумесная выстаўка адкрылася менавіта ў нашым горадзе, дзе, як ім здаецца, жыве нешта вечнае. Увогуле, як сказаў С. Сялецкі: «Хацелася пачынаць свой шлях у мастацтве прыгожа й таму мы выбралі Горадню». Дарэчы, у Сяргея ўжо былі выставы ў Польшчы, ЗША, а пасьля Горадні ён зьбіраецца ў Нямеччыну. Для Ганны гэта першая па-сапраўднаму значная выстава, паколькі дагэтуль яна рабіла спробы толькі ў калектыўных. Напэўна таму адчувалася яе хваляваньне.

На жаль, у той дзень у Новым замку было ня вельмі шматлюдна, аднак вельмі раю, шаноўныя гарадзенцы й госьці нашага горада, наведаць выставу «Палёт Навігатара», на ёй прадстаўлена новае беларускае мастацтва.

**М. К.**

**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**



